МАРК МІЛАР • ДЖОН РАМІТА МЛ.

# МАРДАБОЙ

$2.99

ВЫПУСК 5



САМЫ
ПЫЛКІ
КОМІКС
У СВЕЦЕ!

JRJR
TP
DW






# МАРДАБОЙ

## ВЫПУСК ПЯТЫ

**MARK MILLAR**
аўтар ідэі і сцэнара

**JOHN ROMITA JR.**
аўтар ідэі і мастак

**TOM PALMER**
чарніла

**DEAN WHITE**
колер

**CHRIS ELIOPOULOS**
шрыфты

**JOHN BARBER**
рэдакар

ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ - COMICSBY.UCOZ.COM

**KICK-ASS No. 4. October 2008** 

ПАМЯТАЕЦЕ СЯРУНОЎ, ЯКІХ Я НАТХНІЎ? ЯНЫ ЯШЧЭ ПЕРААПРАНА-ЮЦЦА І СТВАРАЮЦЬ НА MYSPACE СВАЕ ЎЯЎНЫЯ СУПЕРКАМАНДЫ?

ДЫК ВОСЬ, АДЗІН З ІХ ВЫЙШАЎ НА ВУЛІЦЫ, І ГЭТА МЯНЕ РАЗДРАЖ-НЯЕ ДА ІКАЎКІ!


ЁН КЛІЧА СЯБЕ "ЧЫРВОНАЯ СМУГА". НЕНАВІЖУ Я ЯГО, ТАМУ ШТО ЁН РАПТОЎНА СТАЎ ЗНАКАМІТАСЦЮ.
Grand TAVERN
NYPD


Я ЗАЛЁГ НА ДНО ПАСЛЯ ЗАБОЙСТВА ЭДІ ЛОМАСА, А ЁН РАЗБІРАЎСЯ З БАРЫГОСАМІ, ГАНДЛЯРАМІ ЛЮДЗЬМІ І РУСКАЙ МАФІЯЙ.
NYPD
POLICE DEPARTMENT CITY


ЯГО ЛЮБІЛІ КОПЫ, ЯГО ЛЮБІЛІ РЭПАРЦЁРЫ І НАВАТ БЛОГЕРЫ ЦАЛАВАЛІ ЯМУ ДУПУ.
COLOSSUS82 НА ФОРУМЕ NEWSARAM'Ы АПІСАЎ ЯГО ЯК СТРОМКУЮ ДАРОСЛУЮ ВЕРСІЮ МАРДАБОЯ.


ШЭСЦЬ ТЫДНЯЎ ТАМУ Я БЫЎ ПЕРШЫМ СЕЗОНАМ "ГЕРОЯЎ". ЗАРАЗ ЖА, КАЛІ ЗАЦІКАВІЎСЯ ІНТЭРНЭТ, Я СТАЎ ЯБУЧЫМ ДРУГІМ СЕЗОНАМ.

ЯК ЖА ХУТКА ЛЮДЗІ ЗАБЫВАЮЦЬ:

ГЭТА ФАКТЫЧНА САМАЯ ТУПАЯ РЭЧ, ЯКУЮ Я БАЧЫЎ. ЧЫРВОНАЯ СМУГА СТРАМЧЭЙ МАРДАБОЯ? ТАБЕ КОЛЬКІ ГАДОЎ, МУЖЫК? ДЗЕСЯЦЬ?

НАРОД ЛЮБІЦЬ ВЫБІРАЦЬ БАКІ, ДЭЙВ. БЭТМЭН СТРАМЧЭЙ СУПЕРМЭНА? БОРН ЛЕПШ БОНДА?

СЛУХАЙ, У МЯНЕ НЯМА ЧАСУ НА ЎСЯКУЮ ХАЛЕРУ. ПРОСТА ДАЙ МНЕ ШЫ-ХАЛК І НОВУ, КАЛІ ЛАСКА. МНЕ ПАРА ВЯРТАЦЦА Ў КЛАС.

ПЫТАННЕ: ЦІ ЗЛУЧАНЫ ГЭТЫ ХЛОПЕЦ З МУЖЫКОМ, ШТО БЕГАЕ СА СВАЁЙ ДУРНАВАТАЙ ДАЧКОЮ?

АДКАЗ ВІДАВОЧНЫ: ТАК. АЛЕ ЧАМУ ТАДЫ ЁН ТАКАЯ ПУБЛІЧНАЯ САМАДАЙКА, У ТОЙ ЧАС ЯК ЯНЫ ПРАЦУЮЦЬ У ЦЕНІ?

У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ, Я НЕ МОГ СТАЯЦЬ У БАКУ, ПАКУЛЬ ЁН ПРЫСВОЙВАЕ САБЕ МАЮ СЛАВУ. МНЕ ТРЭБА БЫЛО АКТЫВІРАВАЦЬ СВОЙ ПРОФІЛЬ ЗНОЎ.

АДНАК НЮ-ЁРК БЫЎ ТАКІ БЯСПЕЧНЫ ПАСЛЯ ДЖУЛІЯНІ*. ЧАМУ Я НЕ З'ЯВІЎСЯ, КАЛІ ЎСЁ БЫЛО ДЭРМОВА?

*РУДОЛЬФ ВІЛЬЯМ ЛУІС "РУДЗІ" ДЖУЛІЯНІ – МЭР НЮ-ЁРКА Ў 1994-2001 ГАДАХ.


ГЭЙ!


НА ШТО
ГЭТА ТЫ
ЎТАРОПІЎСЯ?


ЭЭ, ПРАБАЧЦЕ.
Я ПАЧУЎ ШУМ І
ЗАХАЦЕЎ ПРАВЕРЫЦЬ,
ШТО Ў ВАС ТУТ УСЁ...
ЯК БЫ...
ПА ЗГОДЗЕ.


ШО?
ІДЗІ
Ў ГАЙ
АДСЮЛЬ!


КОЖНУЮ НОЧ Я
БАДЗЯЎСЯ ПА ГОРАДУ
І КОЖНУЮ НОЧ
ВЯРТАЎСЯ ДАДОМУ
НІ З ЧЫМ.
ЯК ЧЫРВОНАЯ СМУГА
ПРЫМУДРАЎСЯ
ПРАКРУЧВАЦЬ ТАКІЯ
ВЯЛІКІЯ АБЛАВЫ?


КІМ БЫЎ
ГЭТЫ
ХЛОПЕЦ...
...І ЧАМУ Я
РАПТАМ СТАЎ
ДРУГІМ?

КЭЦІ ДУМІ:

ТЫ ЧАГО, ДЭЙВ? НЕЙКІ ТЫ СЁННЯ СУМНЫ. ЗВЫЧАЙНА ТЫ ЧМУРЭЕШ АД ШОЎ "ТЫ СУПЕРМАДЭЛЬ".

УСЁ Ў ПАРАДКУ. ПРОСТА Я... НЯ ВЕДАЮ...

У ДЭПРЭСІІ? СЭКСУАЛЬНА НЕ АДБЫЎСЯ? СОРАМНА ЗА ТОЕ, ШТО ПРЫКІДВАЮСЯ ГЕЕМ, КАБ ТУСАВАЦЦА З ЁЮ?

АДНАК Я БЫЎ ПРОСТА СМЯРДЗЮЧАЙ КУЧАЙ ГАЎНА. ЯК ІНАЧАЙ Я МОГ ПАСЯБРАВАЦЬ З ТАКОЙ ДЗЯЎЧЫНАЙ?

У ЧЫМ СПРАВА? СКАЖЫ МНЕ.

КЭЦІ, Я БАЮСЯ РАСКАЗВАЦЬ ТАЦЕ ПРА СВАЁ ГЕЙСТВА. У НАС У СЯМ'І РАНЕЙ НЕ БЫЛО ГЕЯЎ І... Я ПРОСТА НЯ ВЕДАЮ, ЯК ЁН АДРЭАГУЕ.

О, ДЭЙВ. ГРАМАДСКАЯ ПРАЦА НАВУЧЫЛА МЯНЕ, ШТО ЛЮДЗІ МОГУЦЬ МОЦНА ЗДЗІЎЛЯЦЬ.

ТВОЙ БАЦЬКА, ЯК БЫ, НАЙМІЛЫ ЧАЛАВЕК У СВЕЦЕ. БУДЗЬ СУМЛЕННЫ З ІМ І ЎСЁ БУДЗЕ ДОБРА.

АДНАК СУМЛЕННАСЦЬ НЕ ЗАЎСЁДЫ ЛЕПШАЯ СТРАТЭГІЯ, ПАВЕРЦЕ МНЕ. БЫЦЬ СУМЛЕННЫМ АЗНАЧАЛА Б СКАЗАЦЬ ЁЙ ТУТ І ЗАРАЗ, ШТО Ў ЯЕ ПЛЯЧО ЎПІРАЕЦЦА 18-САНТЫМЕТРОВЫ НІТ.

МАЁ АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ НАКРЫЛАСЯ ПОХВАЙ, А ЧЫРВОНАЯ СМУГА ЦАЛКАМ ЗАМЯНІЎ МАЁ АЛЬТЭР-ЭГА.

АПОШНЯЙ КРОПЛЯЙ СТАЎ РЭПАРТАЖ ВЕЧАРОВЫХ НАВІН, У ЯКІМ ЯМУ АПЛАДЫРАВАЛІ ЗА СТВАРЭННЕ ПЕРШАЙ СУПЕРГЕРОЙСКАЙ СТАРОНКІ НА MYSPASE...

ВЫ ЛЯСНУЛІСЯ?! Я ЗРАБІЎ ГЭТА НЕКАЛЬКІ МЕСЯЦАЎ РАНЕЙ!

СУЧАСНАЯ ВЕРСІЯ БЭТ-СІНГЛА? Я ПРЫДУМАЎ ГЭТУЮ НАЗВУ, ЧУВАК. НУ ЎСЁ, Я БОЛЬШ НЕ БУДУ АДСІЖВАЦЦА І НЕ ЗВЯРТАЦЬ НА ГЭТА УВАГУ.

КАЛІ У ВАС ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА, АДПРАЎЛЯЙЦЕ ЯЕ ЧЫРВОНАЙ СМУЗЕ НА МЫЛА, ТАК? ЁСЦЬ У МЯНЕ ТАКАЯ НЕХЯРОВАЯ ПРАБЛЕМА...

НА НАСТУПНЫ ВЕЧАР:

ДАВАЙ, ДАВАЙ. НЕ КАЖЫ МНЕ, ШТО ТЫ АПРОЧ УСЯГО ІНШАГА ЯШЧЭ І СПАЗНІШСЯ...

МАРДАБОЙ?

ГЛЯДЗІЦЕ, ХТО З'ЯВІЎСЯ!

ЯКОГА ЛЯСУНА ТЫ КАЖАШ, ШТО ТЫ ЗРАБІЎ СРАНУЮ ВЭБ-СТАРОНКУ ПЕРШЫМ?

ГОСПАДЗІ БОЖА. СЛУХАЙ, ЧУВАК, ТЫ НЕ ПАВЕРЫШ, ЯК МОЦНА ЯНЫ ПЕРАБЛЫТАЛІ МАЕ СЛОВЫ. Я НАВАТ СПАСЫЛАЎСЯ НА ЦЯБЕ ГЭТЫМ РЭПАРЦЁРАМ.












ТВАЮ МАКАЎКУ! ЯНА САПРАЎД-НАЯ?

О, ТАК. Я КЛІЧУ ЯЕ СМУГАМАБІЛЬ.


Я ЗАХОДЖУ НА САЙТ З МАБІЛЬНІКА І ГЛЯДЖУ ЗДАРЭННІ, ПАКУЛЬ ЕДУ.
ГЭТА Ж ПРОСТА АХЯРЭННА.
MI ST


ПРАБАЧ ЗА КОМІКСЫ І ІНШАЕ СМЕЦЦЕ. УЖО ДАЎНО ТРЭБА НАВЕСЦІ ТУТ ПАРАДАК. ТЫ ПАЛІШ?
НЕ, ДЗЯКУЙ.


ВУШАК ДАПАМАГАЕ МНЕ ПАСЛАБІЦЦА ПАД ЧАС ПАТРУЛЯ. СТАНОВІЦЦА НЕ ТАК СТРАШНА, КАЛІ ЕДЗЕШ СУПРАЦЬ НАТОЎПУ.


ПАВІНЕН ПРЫЗНАЦЦА... Я ЎЯЎЛЯЎ ЦЯБЕ ІНШЫМ. ЯКІМ ЧЫНАМ ТЫ ПРАКРУЦІЎ ТУЮ АБЛАВУ НА МАФІЮ?
НА РУСКІХ? ДЫ МАЯ КУЗІНА СУСТРАКАЛАСЯ З АДНЫМ З ГЭТЫХ АПІВОШАЎ. ЁН НАПІВАЎСЯ І ЎСЁ МНЕ НА ХРАН РАСКАЗВАЎ.
ПАСЛЯ ПАРЫ АБЛАЎ ЁН УЖО ТАК НЕ ШЧЫРШЧЫЎ, АЛЕ ГЭТАГА МНЕ БЫЛО ДАСТАТКОВА, КАБ ЗРАБІЦЬ САМЕ ІМЯ.


ДЫК ЗНАЧЫЦЬ ТЫ ІМ ТВАРЫ НЕ БІЎ, ЯК КАЗАЛІ ПА ТБ?
ХРЭНА ЛЫСАГА. ТЫ БАЧЫЎ ГАБАРЫТЫ ГЭТЫХ ВЫРАДКАЎ?

ВОСЬ ТАДЫ Я І ЗРАЗУМЕЎ. ТАДЫ Я І ДАВЕДАЎСЯ, ШТО ГЭТЫ ЧУВАК НЕ МАЕ НІЧОГА АГУЛЬНАГА З ВЯЛІКІМ ТАТАЧКАЙ І ХІТ-ГЁЛ, І ЎСЁЙ ТОЙ ХАЛЕРАЙ, ШТО СА МНОЮ ЗДАРЫЛАСЯ.

ЁН БЫЎ ТАЛАЛУЙ. НАПРОСТ ЯК Я...

ТЫ ЛЮБІШ ДЭНІ ЭЛЬФМАНА*?

Я ЯГО КАХАЮ.

*ДЭНІ ЭЛЬФМАН – АМЕРЫКАНСКІ КАМПАЗІТАР, ЯКІ СПЕЦЫЯЛІЗУЕЦЦА НА САУНДТРЭКАХ ДА ПРЫГОДНІЦКІХ ФІЛЬМАЎ І МУЛЬТФІЛЬМАЎ, У ПРЫВАТНАСЦІ, ПА КОМІКСАМ.




СЯМНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ ЗАХАПЛЕННЯ КОМІКСАМІ РАПТАМ АТРЫМАЛІ СЭНС. Я НАРЭШЦЕ ЗРАЗУМЕЎ, ЧАМУ СУПЕРГЕРОІ ПРАЦУЮЦЬ ПАРАМІ І ГЭТА НЕ ТАМУ, ШТО ІМ НІЯКАВАТА.

НЕ ТАМУ, ШТО ІМ ЗДАЕЦЦА ТРОШКІ ДЗІЎНЫМ ТУСАВАЦЦА З ІНШЫМІ ЛЮДЗЬМІ Ў МАСКАХ І ПЛАШЧАХ.

ЯНЫ СТВАРАЛІ КАМАНДЫ ТОЛЬКІ ПА АДНАМУ ЧЫННІКУ.

ГЭТА ВЕСЕЛА.

ЦЫЦАХІ ЗЛЕВА ПА КУРСЕ, ЧУВАК...

О, БОЖА.



МЯНЕ ДРЭЧЫЦЬ.







NO PARKING
...ТЫМ НЕ МЕНШ, НАШАЕ ПЕРШАЕ ЗДАРЭННЕ БЫЛО ПРОСТА ШТОСЬЦІ З ЧЫМСЬЦІ.


ХЛОПЦЫ! ДЗЯКУЙ БОГУ, ВЫ ПРЫЙШЛІ! ГЭТАЯ ЦЁТКА КАЖА, ШТО ЯЕ ДЗІЦЯ ЗАСТАЛОСЯ Ў КВАТЭРЫ 17Ц!
ШТО?
І ВЫ ЯШЧЭ НЕ ТЭЛЕФАНАВАЛІ 9-1-1?

ДЗЕСЯЦЬ ХВІЛІН НАЗАД, АЛЕ ЯНЫ ЯШЧЭ НЕ ДАБРАЛІСЯ.
ЧОРТ. І ШТО НАМ ЦЯПЕР РАБІЦЬ? НАС ЖА НЕ РЫХТАВАЛІ ДЛЯ ТАКОЙ ХАЛЕРЫ!

ШТО ВЫ ТАКОЕ КАЖАЦЕ? НЕ СТОЙЦЕ Ж ПРОСТА ТАК!
ВЫ ЗВАР'ЯЦЕЛІ? МЫ ЗАГІНЕМ!
НЕ ВАЖНА...

...МЫ ЛЕЗЕМ УНУТР, ЧУВАК.


ГЭЙ, КІНЬ! ГЭТА Ж ПАДПАЛЕНЫ ДОМ!
ПЛЯВАЦЬ. ТАМ ДЗІЦЯ...


...І НІШТО НЕ ПРЫМУСІЦЬ МЯНЕ СТАЯЦЬ І ГЛЯДЗЕЦЬ.


БЛЯ.
Я, НАПЭЎНА, ЗУСІМ ЛЯСНУЎСЯ.


ТАК ТРЫМАЦЬ, РАБЯТЫ!
МАРДАБОЙ, ЯГО КЛІЧУЦЬ ЧАРЛІ! МАЙГО ХЛОПЧЫКА КЛІЧУЦЬ ЧАРЛІ!


ТАК, А ЗАРАЗ ЗБЯЖЫМ ПРАЗ ЧОРНЫ ВЫХАД. ПАЖАРНІКІ ЎСЁ РОЎНА ПРЫБУДУЦЬ ПРАЗ НЕКАЛЬКІ ХВІЛІН...
...І Ў ТОЙ ЧАС ДЗІЦЯ МОЖА ПАМЕРЦІ. ПАЙШЛІ ЎЖО, БУДЫНАК ВОСЬ-ВОСЬ АБРЫНЕЦЦА.
EXIT


БЛЯ.


Я НЕ МАГУ, СЯБАР. УСЁ ПАВІННА БЫЦЬ НЕ ГЭТАК.


У ЛЮБЫМ ВЫПАДКУ, 17Ц ПРАМА ПА КАЛІДОРУ. КАЛІ ХОЧАШ ВЯРНУЦЦА, Я ЎСЁ ЗРАБЛЮ САМ.
ТЫ ВЕДАЎ, ШТО ТЫ ЛЯСНУТЫ НА ЎСЮ ГАЛАВУ?


ЧАРЛІ!
ТЫ ТУТ?




ТЫ ПАГЛЯДЗІ Ў ВАННАЙ, А Я ЗІРНУ ТУТ. ЁН МОГ ЗАПАЎЗЦІ ЗА ШТО-НЕБУДЗЬ.




ТЫ ЗНАЙШОЎ ЯГО?
ГЭТА КАЦЯНЯ, СЯБАР. ГЛЯДЗІ! ЧАРЛІ – ПРЫТЫРАШНЫ КОТ! ТАЯ ЦЁЦЯ НАПЭЎНА СЛАБАРАЗВІТАЯ ЦІ НЕШТА ТАКОЕ!

ЧОРТ! ШТО ЗАРАЗ РАБІЦЬ?
НЯ ВЕДАЮ, Я НЯ ВЕДАЮ. ДАЙ СЯКУНДУ ПАДУМАЦЬ. МОЖА, У НАС АТРЫМАЕЦЦА...

ВОСЬ ХАЛЕРА!




ЧАРЛІ!


О БОЖА. МАЯ СПІНА.

ТЫ ЦЭЛЫ?
ЧУВАК, МЫ НА ХРАН ЗДОХНЕМ ТУТ...
ШТО?

ДЗЬВЕРЫ ЗАБЛАКІРАВАНЫ... ВОКНЫ ЗАЧЫНЕНЫ... МЫ ЗДОХНЕМ, І ЎСЁ З-ЗА ТУПОГА КАТА.


ПРАБАЧ.





ВЫВЕДЗІЦЕ ГЭТЫХ ДУРНЯЎ ВОН АДСЮЛЬ!

ЗНАДВОРКУ НАТОЎП РАДАВАЎСЯ.
АСАБЛІВА, КАЛІ МЫ ВЯРНУЛІ ЧАРЛІ ГЭТАЙ ВЯЛІКАЙ, ТОЎСТАЙ ЗВАР'ЯЦЕЛАЙ ЦЁТКЕ. ЯЕ ПОЗІРК БЫЎ БЫЦЦАМ З ФІЛЬМА.
ГЭТА БЫЎ СУПЕРМЭН, ЯКІ ЗЛАВІЎ ШРУБАЛЁТ. ЛЮК, ЯКІ ЗНІШЧЫЎ ЗОРКУ СМЕРЦІ.
УСЁ ПАКРЫЛІСЯ МУРАШКАМІ І РЫДАЛІ ПРОСТА КАПЕЦ.
КАНЕШНЕ, МЫ ПААБЯЦАЛІ КОПАМ, ШТО ЗАВЯЖАМ З ГЭТЫМ ДЭРМОМ, АЛЕ НАМ УЖО ПОЗНА РАЗДУМВАЦЦА.
ГЭТАЯ СУПЕРГЕРОЙСКАЯ СУТЫЧКА ПЛЯЧОМ ДА ПЛЯЧА БЫЛА ЯК У "АДВАЖНЫМ І АДВАЖНЫМ" АБО Ў "MARVEL КАМАНДЗЕ".
POLICE DEPARTMENT CITY OF NEW YORK
АБ ГЭТЫМ КАЗАЛІ CNN, NBC, ЛЕТЭРМАН, ЛЕНА І КРЭЙГ ФЕРГЮСАН.
І ЯК, БАРБОС ПАБЯРЫ, Я МОГ ПАДУМАЦЬ АБ ТЫМ, КАБ ВЫКІНУЦЬ ЛЕПШАЕ, ШТО КАЛІСЬЦІ ЗДАРАЛАСЯ Ў МАІМ ЖЫЦЦІ?


МІСТАР ДЖЭНАВЕЗЕ?..
ВЕДАЮ. Я ТАКСАМА, БЛЯ, ГЛЯЖУ...


ДВА МІЛЬЁНА ЗАПЫТАЎ У ГУГЛЕ. СТО ТЫСЯЧ СЯБРОЎ НА MYSPASE. СУПЕРГЕРОЙСКІЯ ЧАТЫ НАПОЎНІЛІ ПЕРАЙМАЛЬНІКІ МАРДАБОЮ І ЧЫРВОНАЙ СМУГІ.
МЫ СТАЛІ РОК-ЗОРКАМІ. УЗОРАМІ ДЛЯ ПЕРАЙМАННЯ. АБРАЗАМІ ПОП-МАСТАЦТВА, ЯКІЯ РАЗДАЮЦЬ ПАРАДЫ АБ УСІМ: АД ДЫЗАЙНА ГАРНІТУРА ДА АДНОСІН.


Я ДА ГЭТАГА ЧАСУ НЕ МАГУ ЎЦЯМІЦЬ, ЯК ХУТКА МЫ ЎСЁ ГЭТА ПРАСЕРЛІ.
ВАРАТАВАЎ МУДАЦКАГА КАТА? НЕ ВЯЛІКАЯ ЗАСЛУГА!
ШТО ЗА ХАЛЕРА?

